ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год XXIV, № 205 New York May — Травень 1974 Нью Ёрк Vol. XXIV, № 205

## ФАКТЫ ГІСТОРЫІ І УЗГАДАВАНЬНЕ МОЛАДЗІ

**(ДА 80-ГОДЗЬДЗЯ АД НАРАДЖЭНЬНЯ МІКАЛАЯ ГАЛАДЗЕДА)**

Мікалаю Галадзеду ў травені сёлета споўнілася-б 80 год. Хто ведае, можа-б ён і дажыў да гэткага паважнага веку. Іншыя-ж дажываюць, і нат не ў благім здароўі. І калі-б гэта так сталася, дык на Беларусі сяньня ўгодкі ягоныя былі-б адзначаныя вялікай урачыстасьцяй. Сын беднага селяніна, рэвалюцыянер з маладых гадоў, сябра партыі з 1918 году, сябра ЦК Кампартыі Беларусі з 1924 году, з 1927-га — Старшыня Савету Народных Камісараў Беларусі. А ў чырвені 1937 году... — ахвяра сталінскага тэрору ці „культу асобы Сталіна”, як гэта далікатна кажацца цяпер у Савецкім Саюзе.

Адзін з супрацоўнікаў Галадзеда ў урадзе Савецкае Беларусі С. Крушынскі апублікаваў у Нью Ёрку ў 1953 годзе свае ўспаміны „Беларускі камунізм і нацыяналізм”. Крушынскі піша:

„Ведамай ахвярай яжоўшчыны стаўся Старшыня Саўнаркому БССР Мікалай Галадзед. Галадзед быў арыштаваны, калі сакратар ЦК партыі абвесьціў яму, што ён із свае пасады здымаецца. На месца Галадзеда быў рэкамэндаваны другі сакратар Валковіч. Галадзед быў арыштаваны ў Маскве ці па дарозе ў Маскву. Пасьля стала ведама, што ён у часе допыту ў НКВД выкінуўся зь пятага паверху і забіўся насьмерць. Ёсьць асновы прыпушчаць, што НКВД сумысьля стварыла ўмовы для самагубства”.

Сяньня ў Савецкай Беларусі адкрыта пішацца й гаворыцца пра шмат якія дэталі Галадзедавага жыцьця й дзейнасьці за выняткам таго што ён скончыў самагубствам — гэтай найвышэйшай формаю пратэсту супраць зьдзеклівага партыйна-паліцыйнага рэжыму трыццатых гадоў.

Паказальная ў гэтым сэньсе невялічкая біяграфічная даведка пра Мікалая Галадзеда, што была зьмешчаная ў газэце „Зьвязда” за 20 травеня 71-га году ў рубрыцы „З рэдакцыйнага стала БелСЭ”. Разам з даведкаю пра Галадзеда былі надрукаваныя дзьве іншыя: адна пра падпольшчыцу з часоў Другое сусьветнае вайны Галабурду Тамару, другая — пра казацкага палкоўніка 17-га стагодзьдзя Галоту Ільлю. Пра Галабурду сказана, што яна ў 1944 годзе была „забіта фашыстамі ў вадным зь менскіх канцлягераў”, пра Галоту — „загінуў у часе бою”. Пра Галадзеда — проста „памёр”. А ўжо ў самой Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі нат і гэтага „памёр” няма, проста стаіць нямая дата: 21га чырвеня 1937 году.

А яшчэ дзесяць гадоў таму, у 1964 годзе, у газэце „Зьвязда” ад 22 травеня ў вартыкуле да 70годзьдзя ад дня нараджэньня Мікалая Галадзеда можна было прачытаць: „У росквіце творчых сіл Мікалай Мацьвеевіч загінуў ахвярай самавольства культу асобы”. Ці напіша пра гэта газэта „Зьвязда” сёлета ў вадзначаньне 80-х угодкаў ад нараджэньня Галадзеда? А напісаць трэба было-б, і не адным сказам, як дзесяць гадоў таму, а цэлым артыкулам — даць адказ на неўразумелае пытаньне: як гэта магло стацца, што якраз пасьля таго, калі ў 1936 годзе была абвешчаная пабудова сацыялізму ў Савецкім Саюзе, калі была прынятая г. зв. „найдэмакратычнейшая ў сьвеце” Канстытуцыя Савецкага Саюзу, гэтулькі былых рэвалюцыянераў чыста пралетарскага паходжаньня й дзяржаўных ды партыйных дзеячоў пагінулі ў падвалах савецкіх турмаў, у канцлягерах, у сваіх службовых габінэтах і прыватных памешканьнях, дзе накладалі на сябе рукі, або гэтак, як Мікалай Галадзед кідаліся праз вакно зь пятага паверху НКВД? Ці знойдзеныя спраўцы гэтае масавае трагедыі, ейныя палітычныя, сацыяльныя й псыхалягічныя прычыны? Ейныя вынікі для станаўленьня нацыянальных культураў і дзяржаўнага будаўніцтва? Ці ведае наогул пра ўсё гэта сучасная моладзь Беларусі, студэнты гістарычных факультэтаў і маладыя сябры партыі?

А гэта-ж ніхто іншы, як сучасны кандыдат у сябры Палітбюро й першы сакратар Кампартыі Беларусі Пётра Машэраў заклікаў сёлета на пленуме ЦК КПБ (гл. „Зьвязду” ад 30-га красавіка сёлета):

„На этапе сталага сацыялізму, калі роля духоўнага фактару ў жыцьці нашага народу няўхільна ўзрастае, ад партыйных і савецкіх работнікаў, усіх нашых кадраў патрабуюцца найшырэйшы марксысцка-ленінскі кругагляд, уменьне аналітычна мысьліць, хутка й правільна разумець дыялектыку жыцьця ва ўсёй яго разнастайнацка--ленінскае філязофіі, навуковазе грунтоўнае вывучэньне марксысцка-ленінскае філясофіі, навуковага камунізму, слаўнай гісторыі нашай партыі”.

Гэтак казаў Пётра Машэраў на сёлетнім красавіцкім пленуме ЦК Кампартыі Беларусі. Трэба думаць, што партыйная й навуковая пасьлядоўнасьць мусіла-б даць магчымасьць савецкім дасьледнікам „слаўнай гісторыі” партыі ўлучыць у гэтую гісторыю й абставіны гібелі гэткіх выдатных дзеячоў, як Мікалай Галадзед.

Добрую справу, хоць і ў абмежаным абсягу, зрабіў летась супрацоўнік часапісу „Полымя” Уладзімер Якутаў, зьмясьціўшы ў сьнежанскім нумары гэтага часапісу нарыс пра Мікалая Галадзеда пад заг. „Рэвалюцыяй прызваны”. Нарыс напісаны памастацку з мноствам дэталяў, пачынаючы ад самага раньняга Галадзедавага дзяцінства. „Жыў у Старым Крыўцы (на Браншчыне — Я. З.) Мацьвей Давыдавіч Галадзед, — чытаем у нарысе. Селянін-гарапашнік, бядняк. Меў жонку, Еўдакію Андрэеўну, дзьвх дачок — Марыю і Ганну. 22 мая 1894 году нарадзіўся нарэшце і сын, назвалі Міколай. Мацьвей Давыдавіч павесялеў — будзе і ў яго памагаты, вырасьце гаспадар.

„Мікалай, чаго бацька і чакаў ад яго, ужо зь дзесяцёх гадоў стаў нязьменным памагатым — ‚другім гаспадаром у доме’, як часта гаварыла маці. Увогуле ён быў кемлівы хлопец. Ужо ў 15 гадоў самастойна мог перакласьці печ, паладзіць саламяную страху... Ды што-б ні рабіў Мікалай, а яго не пакідалі думкі пра вучобу. Вельмі хацеў вучыцца”. І г. д. І канчаецца нарыс абразком, як Мікалай Мацьвеевіч, ужо заслужаны партыйны й дзяржаўны дзеяч, узнагароджаны ордэнам Леніна, у 1935 годзе наведаў сваіх аднасяльчанаў. „Мікалай Мацьвеевіч, — піша цяпер Якутаў, — пры разьвітаньні паабяцаў землякам, што на наступны год прыедзе да іх у госьці. І рашылі тады стаpакрыўчане ў гонар дарагога земляка азеляніць дарогу ад павароту Навазыбкаў — Litарадуб да Старога Крыўца”.

Пра тое, чаму Мікалай Мацьвеевіч не датрымаў абяцаньня наведаць сваіх землякоў, у нарысе сваім Уладзімер Якутаў ня можа, відаць, напісаць сяньняшнім часам „падвышанае ролі ідэалягічнага фронту”...

Але той-жа Якутаў піша пра Галадзедавы пагляды-жаданьні, усяроўна як-бы парафразуючы Пётру Машэрава з апошняга пленуму: „Так, — чытаем у Якутава, — Мікалай Мацьвеевіч Галадзед сапраўды надаваў вялікую ўвагу выхаваньню будучага пакаленьня. Ён лічыў, што для моладзі трэба ствараць усе ўмовы для ўсебаковага духоўнага й фізычнага разьвіцьця. Ня маючы свайго шчасьлівага дзяцінства, ён хацеў бачыць усю савецкую моладзь шчасьлівай і раданай”.

„Шчасьлівай і радаснай” сучасную савецкую моладзь, аднак, партыя намагаецца рабіць, хаваючы ад яе гістарычную праўду, а ў тым ліку й факты пра трагедыю Мікалая Галадзеда. Сьляды гэтае трагедыі параськіданыя сяньня шмат дзе: і па газэтах дзесяцігадовае даўнасьці, і па архіўных сховішчах. Дзесьці, прыкладам, хаваюцца запісы працэсу Бухарына й бухарынцаў у 1938 годзе. На працэсе пракурор Вышынскі казаў:

„Няма чаго рабіць нявінны выгляд, абвінавачаны Бухарын, лепш прызнацца ў тым, што ёсьць. А што ёсьць, дык вось што: у вас была група змоўцаў на Беларусі, на чале якіх стаялі Галадзед, Чарвякоў і Шаранговіч”.

У верасьні 1964 году ў газэце „Зьвязда” партыец з 1918 году Крыніцкі, у артыкуле пра Шаранговіча пісаў пра трыццатыя гады:

„Пад непасрэдным кіраўніцтвам Маленкова разгарнуліся неабгрунтаваныя рэпрэсіі супраць партыйных кадраў, кадраў ленінскае загартоўкі. У выніку правакацыйнага даносу трагічна загінулі старшыня ЦВК БССР Чарвякоў і старшыня Саўнаркому Беларусі Галадзед”.

Дык слухаючы сяньня Пётру Машэрава пра тое, як моладзь павінна ўзгадоўвацца на „гераічных традыцыях КПСС”, на гістарычнай праўдзе, трэба пытацца: ці даведаецца моладзь **усю праўду** пра гісторыю КПСС з рыхтаваных цяпер новых гістарычных працаў, у тым ліку зь пяцітомавае „Гісторыі БССР”. Гэта-ж паводля гэтае „Гісторыі” сучаснае маладое пакаленьне на Беларусі будзе пазнаваць сваю мінуўшчыну, шукаючы лепшае долі, чымся тая, якую меў Мікалай Галадзед.

**Я. Запруднік**

## “СЭРЦА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПЫТАНЬНЯ”

„Сэрца нацыянальнага пытаньня” — на гэткую тэму адбылася 25 красавіка сёлета канфэрэнцыя на Калюмбійскім Унівэрсытэце ў Нью Ёрку, арганізаваная ў Праграме вывучэньня савецкіх нацыянальных праблемаў.

Ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ўзялі ўдзел у канфэрэнцыі праф. А. Адамовіч, др. Я. Запруднік і др. В. Кіпель.

Беларускае пытаньне закраналася ў шэрагу выступленьняў. На прыкладзе БССР было паказана, што ў Савецкім Саюзе дапушчаецца сяньня адзначаньне тых ці іншых падзеяў у гісторыі беларускае культуры, аднак гэта робіцца вузка, лякальна. Тымчасам як розныя расейскія юбілеі сьвяткуюцца ўва ўсесаюзным маштабе і становяцца абавязкавымі для ўсіх нерасейскіх народаў. Прыкладам, юбілей расейскага друкарства адзначыўся шырака, усесаюзна, а пра беларускае друкарства гаварылася толькі ў друку БССР, і то вельмі сьціпла.

Цікавым было выступленьне на канфэрэнцыі аднаго з чатырох асноўных дакладчыкаў, прафэсара Рамана Шпарлюка.

Праф. Шпарлюк зазначыў, што не зважаючы на спробы некаторых зьнізіць значаньне гістарычнасьці беларускага народу, аб’ектыўна гэта немагчыма. Беларуская дзяржаўнасьць у пару Вялікага Княства Літоўскага — рэч незапярэчная. Культура, мова Вялікага Княства Літоўскага былі беларускімі, хоць сяньня Саветы й намагаюцца гэты факт затушаваць.

Як ілюстрацыю таго, што кампартыя імкнецца зьменшыць значаньне гісторыі нерасейскіх народаў, праф. Шпарлюк на прыкладзе „Гісторыі БССР” пяцітомавага выданьня АН БССР, паказаў, што першы том гэтае працы ахоплівае аж 10 стагодзьдзяў беларускае гісторыі, а чатыры тамы — гісторыю ад 1861 году да сяньня.

У дыскусіях прыгадваўся пагляд некаторых беларускіх савецкіх гісторыкаў і інш., што цяпер на Беларусі новая сацыялістычная форма дзяржаўнасьці, але не беларуская дзяржаўнасьць наагул, бо дзяржаўнасьць сваю беларускі народ меў і мінулымі стагодзьдзямі.

З працаў сымпозіюму можна зрабіць высnaў, што вывучэньне Беларусі, ейнае культуры й гісторыі набывае штораз большае вагі й сярод заходніх дасьледнікаў нацыянальных праблемаў Савецкага Саюзу.

## “КАРАЛЕВА БЕЛАРУСЬ”




Як гэта ўжо сталася традыцыяй ад колькіх гадоў, кажнага году выбіраецца „Каралева Беларусь”, якая пазьней рэпрэзэнтуе Беларусаў на выбарах „Каралевы Паняволеных Народаў” у Брадфардзе.

Сёлета на „Каралеву Беларусь” была выбраная сп-чня Вэраніка Янцэвіч, 19-цігадовая дачка Ўладзімера й Вэранікі Янцэвічаў з Галіфаксу, якія зьяўляюцца сябрамі Беларускага Грамадзкага Клюбу „Сакавік” у Брадфардзе і ў якім адбыліся выбары ў нядзелю 18 красавіка.

Камітэт Паняволеных Народаў у Брадфардзе, у які ўваходзяць і Беларусы разам зь пяціма іншымі народамі, ладзіць 18 травеня вялікі канцэрт і вечарыну, на якіх і будзе выбраная „Каралева Паняволеных Народаў” 1974 году. Судзьдзямі на гэтых выбарах будуць чатыры сябры Брытанскага Парляманту й Рэдактар мясцовае газэты.

Пасьля выбараў звычайна адбываецца прыняцьцё, у часе якога вядуцца гутаркі на важныя палітычныя тэмы зь сябрамі Брытанскага Парляманту й іншымі ангельскімі прадстаўнікамі. Шчыра жадаем нашай Вэраніцы, каб сваёй прыгажосьцяй здабыла належную ўвагу судзьдзяў ды рэпрэзэнтавала ў сёлетнім годзе Беларусь, як „Каралева Паняволеных Народаў”.

**Янка Крушына**

## У БЕЛАРУСАЎ КЛІЎЛЕНДУ Й ЧЫКАГА

Як рэдактару газэты „Беларус”, мне даводзіцца амаль кажнага году наведваць асабіста большыя асяродкі Беларусаў у ЗША, каб падтрымліваць і паглыбляць сувязі паміж Рэдакцыяй газэты й ейнымі чытачамі й супрацоўнікамі ў дадзеных асяродках. А летась я меў магчымасьць наведаць беларускія асяродкі навет у Эўропе — у Ангельшчыне й Францыі, а таксама ў Канадзе.

Працягваючы гэтую акцыю, што сталася ўжо традыцыяй, сёлета 26-27 красавіка я наведаў беларускі Кліўленд, а 28-29 красавіка — Чыкага.

Старшыня Кліўлендзкага Аддзелу БАЗА сп. Ул. Дунец, выкарыстоўваючы гэтую нагоду, склікаў у сыботу папаўдні 27 красавіка пашыранае паседжаньне Ўправы Аддзелу БАЗА, на якім былі намі закранутыя й абмеркаваныя розныя актуальныя грамадзкія пытаньні, галоўна пытаньні газэты „Беларус”. Усе бяз вынятку прысутныя энтузіястычна сьцьвярджалі сваё задаваленьне, што газэта „Беларус” апошнім часам імкнецца абслугоўваць усіх чыста Беларусаў ды шукаць і знаходзіць супольную мову між Беларусамі розных арганізацыяў і палітычных кірункаў. У знак гэтага задаваленьня, некаторыя з прысутных заявілі, што яны сёлета задэкляроўваюць большую, чымся ранейшымі гадамі, матарыяльную дапамогу для газэты.

Вечарам таго-ж дня ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру былі ўрачыста адзначаныя 110-я ўгодкі ад сьмерці Кастуся Каліноўскага. На праграму ўрачыстасьці склаліся мой даклад пра Кастуся Каліноўскага ды шматлікія запытаньні й заўвагі на тэму нацыянальна-вызвольнага змаганьня. Вечар закончыўся ўзноў-жа выказваньнем пахвалы й прызнаньня для газэты „Беларус” ды просьбаю, каб узяты ёю кірунак збліжэньня паміж усімі беларускімі групамі, што стаяць на ідэйных пазыцыях Акту 25 Сакавіка, працягваўся далей.

У нядзелю 28 красавіка гэткае-ж адзначэньне 110-х угодкаў ад сьмерці Кастуся Каліноўскага з маім дакладам адбылося ў Чыкага. Урачысты сход адбыўся адразу пасьля Божае Службы ў залі каталіцкай беларускай царквы Хрыста Збаўцы й быў зарганізаваны Ўправай Згуртаваньня Беларусаў штату Іліной. На ўрачыстасьць былі запрошаныя й прынялі ў ёй удзел шмат якія Беларусы зь кіраўніцтва й актыву Беларускай Нацыянальнай Рады ў Чыкага. Пасьля майго дакладу пра Кастуся Каліноўскага й тут, падобна як і ў Кліўленьдзе, прадстаўнікі абедзьвюх арганізацыяў — Згуртаваньня Беларусаў штату Іліной і Беларускай Нацыянальнай Рады ў Чыкага энтузыястычна выказваліся пра ідэйна-палітычны кірунак газэты „Беларус” і поўнасьцяй яго апрабоўвалі. У знак прызнаньня для газэты, сябра Беларускай Нацыянальнай Рады й старшыня Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага сп. Васіль Пунтус зьвярнуўся да прысутных із заклікам зложыць грашовыя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса”. Было зложана больш за $ 400.00.

Пасьля ўрачыстага сходу адбылася даўжэйшая прыватная гутарка з прадстаўнікамі Беларускай Нацыянальнай Рады. У шчырай сяброўскай атмасфэры былі абмеркаваныя пытаньні супрацоўніцтва з газэтай „Беларус”.

На другі дзень — у панядзелак 29 красавіка адбылася гэткая-ж нарада зь кіраўніцтвам і актывам Згуртаваньня Беларусаў штату Іліной.

На заканчэньне ўважаю за прыемны для мяне абавязак шчыра падзякаваць Беларусам Чыкага й Кліўленду за іхную прыхільнасьць да газэты „Беларус” і шчодрую матарыяльную для яе дапамогу.

**Ст. Станкевіч**

## ПАРАД ЛЯЯЛЬНАСЬЦІ Ў НЬЮ ЁРКУ

У сыботу 4 травеня адбыўся на 5-ай авэню ў Нью Ёрку чародны, ужо 27-ы Парад Ляяльнасьці, ладжаны Арганізацыяй Амэрыканскіх Вэтэранаў Замежных Войнаў. Парад пачаўся ад 92-ой вуліцы й закончыўся на рагу 62-ой вуліцы й Мэдысон авэню.

Клічам Параду Ляяльнасьці сёлета было: „Ляяльнасьць Богу й Краю”. Галоўны Маршал Параду сп. Філіп Годж у сваёй прамове да ўдзельнікаў Параду зазначыў: „Людзі маглі-б мець уражаньне, што Ляяльнасьць памерла, але гэтак ня ёсьць. Парад сымбалізуе ляяльнасьць да прынцыпаў свабоды ў супрацьстаўленьні да тыраніі, тэрору й ашуканскае бязбожнае сыстэмы камуністых”.

З нацыянальных арганізацыяў прыймалі ўдзел у Парадзе Украінцы, Латышы, Беларусы й Кітайцы. Беларуская дэлегацыя несла сьцягі беларускі й амэрыканскі ды плякат з напісам: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.

**М. К.**

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.

Subscription $ 6.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ЭЎРАПЕЙСКАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА Й САМАВЫЗНАЧЭНЬНЯ

**АД РЭДАКЦЫІ: Гэты арыткул нам прысланы з колаў Беларускага Вызвольнага Фронту. Ахвотна яго зьмяшчаем, хоць і зь некаторымі скарачэньнямі, зробленымі з чыста тэхнічных мяркаваньняў.**

Зь ініцыятывы нямецкіх палітычных колаў адбылася 1-3 сакавіка сёлета ў Люцэрне (Швайцарыя) Эўрапэйская Канфэрэнцыя Правоў Чалавека й Самавызначэньня. Заданьнем гэтае канфэрэнцыі было выказаць пагляд часткі нямецкіх палітыкаў на г. зв. Канфэрэнцыю Эўрапейскай Бясьпекі й Супрацоўніцтва, склікаць якую прапануе Савецкі Саюз.

Гэтым крокам Масква хацела-б адным стрэлам забіць не аднаго й ня двух зайцаў, а цэлы тузін, паймення: 1. убіць клін паміж Эўропай і Амэрыкай; 2. дабіцца вывядзеньня з Эўропы амэрыканскіх збройных сілаў, якія спыняюць маскоўскую экспансыю на Захад; 3. шляхам супрацоўніцтва з заходняй індустрыяй узмоцніць сваю прамысловую й вайсковую сілу; 4. усьпіць чуйнасьць заходняга сьвету для сваіх экспансыўных мэтаў; 5. мець разьвязаныя рукі на Захадзе дзеля выкарыстаньня іх на мяжы зь Кітаем; 6. забясьпечыцца заходнім хлебам; 7. узмоцніць сваю інфільтрацыю ў краёх Захаду, каб пры дапамозе сваёй пятай калёны падарваць дэмакратычны парадак на Захадзе; 8. разбудаваць свае збройныя сілы дзеля эвэнтуальнага збройнага канфлікту з Захадам; 9. сваімі часовымі „добрымі" дачыненьнямі з Захадам паралiжаваць надзеі паняволеных народаў на маральную дапамогу Захаду ў іхным вызвольным змаганьні; 10. настроіць паняволеныя народы супраць Захаду; 11. мець вольныя рукі дзеля зьнішчэньня нутранага супраціву ў СССР; 12. арганізаваць і задзіночыць г. зв. „сацыялістычныя сілы" ў Вольным Сьвеце супраць заходніх урадаў, і г. д. і г. п.

Не зважаючы на выразную вымову гэтых фактаў, адказныя заходнія палітыкі ня хочаць бачыць у гэтых маскоўскіх намаганьнях асаблівай небясьпекі для Захаду й вялікай крыўды для паняволеных Масквою народаў. Дзеля гэтага сьвядомыя гэтай небясьпекі эўрапейскія сілы стараюцца зьвярнуць увагу заходніх урадаў на небясьпеку для Эўропы, якую нясе г. зв. Эўрапейская Канфэрэнцыя Бясьпекі й Супрацоўніцтва. На гэтую небясьпеку ўжо зварочвала ўвагу сьвету Канфэрэнцыя Эўрапейскай Рады Свабоды, што адбылася ў Лёндане ў жніўні летась і ў якой прыймала актыўны ўдзел і беларуская дэлегацыя (БВФ).

У Канфэрэнцыі ў Люцэрне прыймала ўдзел каля 200 чалавек: палітыкі, парлямантарыстыя, навукоўцы (бальшыня Немцы), прадстаўнікі паняволеных Масквою народаў (Беларусы, Украінцы, Грузіны, Балты, Румыны, Баўгары, Вугорцы, Чэхі, Палякі й інш.). Былі прысутныя й Расейцы. Ад Беларусаў быў запрошаны й прыймаў удзел у Канфэрэнцыі сп. Д. Касмовіч.

Галоўныя прамоўцы ў сваіх даўгіх прамовах вельмі „дыпляматычна" й асьцярожна выказваліся пра парушэньні правоў чалавека ў СССР і сатэлітных краёх. Затое вольныя прадстаўнікі паняволеных народаў рашуча выказваліся супраць тэрору й парушэнняў правоў чалавека й нацыяў у СССР.

Ад імя Беларусаў выступіў з прамовай перад пленумам Канфэрэнцыі сп. Д. Касмовіч. Спачатку ён сказаў пару заўвагаў на тэму рэфэрату лятувіскага прадстаўніка сп. Гэртуціса, які тэндэнцыйна прадставіў гісторыю Вялікага Княства Літоўскага. Сп. Д. Касмовіч папраўіў дакладчыка й зацікаўленым гэтым пытаньнем параіў прачытаць кнігу „Вайсрутэніен" („Беларусь") нямецкага аўтара Эўгена фон Энгельгардта. Затым, навязваючы да тэмы Канфэрэнцыі, ён прыгадаў, што 10 сьнежня 1948 г. Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў прыняла рэзалюцыю аб правох чалавека. Гэтую рэзалюцыю падпісалі й ратыфікавалі таксама СССР і БССР, як сябры АЗН. Аднак, не зважаючы на гэта, асноўныя правы чалавека й нацыі ў БССР, як і ў іншых паняволеных Масквою краёх ды краёх-сатэлітах патаптаныя й зьневажаныя Масквою.

Прамоўца зазначыў, што беларускія прадстаўнікі ў АЗН вельмі энэргічна бароняць правы чалавека й нацыяў Афрыкі, Паўдзённай Амэрыкі, Усходняе Азіі, затое пра пагвальчаньне гэтых правоў маскоўскім рэжымам на Беларусі ня згадваюць ніводным словам. Бурнымі авацыямі былі прынятыя ўсімі прысутнымі гэтыя словы беларускага прадстаўіка. На цэлым радзе канкрэтных прыкладаў сп. Д. Касмовіч паказаў, як сярод беларускага народу на Бацькаўшчыне й ягонай інтэлігенцыі ўсьцяж шырыцца й паглыбляецца супраціў савецкай палітыцы паняволеньня, а таксама шырацца й паглыбляюцца ідэі нацыянальнага вызваленьня.

Прадстаўнікі Беларусі, Украіны, Грузіі супольна з прадстаўнікамі сатэлітных краёў узгаднілі супольную рэзалюцыю ў справе правоў чалавека й нацыяў на вольнае й незалежнае жыцьцё, як дадатак да агульнай рэзалюцыі Канфэрэнцыі. Ініцыятарам нарады дзеля апрацаваньня гэтай рэзалюцыі быў якраз беларускі дэлегат. І хоць агульная рэзалюцыя была апрацаваная вельмі „дыпляматычна", каб не дражніць Крамля, усё-ж была яна ў некаторых пунктах перарэдагаваная і ў яе былі ўнесеныя некаторыя важныя пункты з гэнай дадатковай рэзалюцыі.

Сп. Д. Касмовіч правёў шырокую ўсьведамляльную інфармацыйную акцыю перад рознымі эўрапейскімі прадстаўнікамі й прадстаўнікамі паняволеных народаў. У дачыненьні да беларускай вызвольнай справы пазытыўна выказаліся, між іншымі, польскія прадстаўнікі.

### КАНФЭРЭНЦЫЯ ЭКЗЭКУТЫВЫ ЭЎРАПЕЙСКАЙ РАДЫ СВАБОДЫ

Неўзабаве пасьля Эўрапейскай Канфэрэнцыі Правоў Чалавека й Самавызначэньня, 9-10 сакавіка сёлета адбылася ў Парыжы Канфэрэнцыя Экзэкутывы Эўрапейскай Рады Свабоды. Актыўным і раўнапраўным сябрам Эўрапейскай Рады Свабоды зьяўляецца Беларусь, рэпрэзэнтаваная Беларускім Вызвольным Фронтам. Удзел у працах гэтай Канфэрэнцыі прыймаў таксама сп. Д. Касмовіч.

На Канфэрэнцыі гэтай абмяркоўваліся, між іншымі, пытаньне Канфэрэнцыі ВАКЛ, што адбылася ў красавіку сёлета ў Вашынгтоне, справа чароднай канфэрэнцыі ЭРС у сувязі з Эўрапейскай Канфэрэнцыяй Бясьпекі й Супрацоўніцтва, пытаньне мэмарандуму ЭРС да заходніх міністраў і АЗН ў справе правоў чалавека й нацыяў у маскоўскай імпэрыі ды становішча ЭРС да сучасных перамоваў Захаду з Масквою ў Вене, Жэнэве й Гэльсінках аб мірным сужыцьці й супрацоўніцтве з Масквою.

Гэтак імя Беларусі й ейная вызвольная справа рэпрэзэнтуецца й пашыраецца на міжнароднай арэне Вольнага Сьвету. Аднак, апрача надзвычайных высілкаў і самаахвярнай працы нашых прадстаўнікоў, неабходная й матарыяльная дапамога ўсёй беларускай эміграцыі ў гэтай справе, каб і надалей свабодны беларускі голас гучэў на сусьветным форуме вольных народаў сьвету.

**Прысутны**

# САКАВІКОВЫЯ УГОДКІ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ

**(ЗАКАНЧЭНЬНЕ, ПАЧАТАК У ПАПЯРЭДНІМ НУМАРЫ)**

## ТАРОНТА

56-я ўгодкі абвешчаньня дзяржаўнае незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі Беларусы Канады адзначалі пад кіраўніцтвам Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, што рэпрэзэнтуе пяць беларуска-канадзкіх арганізацыяў.

Стараньнем ККБК Мэр Таронта Дэвід Кромбі абвесьціў Праклямацыяй „Беларускі Тыдзень" у Тароньце, што трываў ад 24-га да 30-га сакавіка. На працягу яго, праз усе сем дзён, ля ратушы Таронта ўзьвіваўся беларускі нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг.

У нядзелю, 24 сакавіка, зраніцы ў беларускіх цэрквах БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага й Сьв. Еўфрасіньні Полацкай адбыліся ўрачыстыя Багаслужбы з Малебенамі за Беларусь.

Стараньнем Беларускага Нацыянальнага Аб'еднаньня й парахвіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай, у залі гэтае-ж царквы адбыўся сьвяточны супольны абед, на якім прысутнічалі й госьці — прыяцелі гэтае парахвіі — Румыны з Айцом Мікалаем Ганазэ на чале.

Урачысты Сход прысьвечаны Дню Незалежнасьці Беларусі адбыўся таго-ж дня, а гадзіне 4-ай папаўдні, у прасторнай харвацкай залі на Дзюпонт. На Сход зьехаліся ня толькі з Таронта й ваколіц, але й з далейшых гарадоў і мясцовасьцяў Канады.

Сход адчыніў Канадзкім Гімнам, у выкананьні аркестры Б. Лішчонка, старшыня Сходу сп. М. Ганько, сакратар Галоўнае Управы Згуртаваньня Беларусаў Канады. Пасьля кароткага ўступу на тэму дня ў ангельскай мове, ён перадаў слова для рэфэрату ў беларускай мове сп. Рыгору Беразоўскаму, сябру Беларускага Нацыянальнага Аб'еднаньня.

Рэфэрэнт коратка накінуў гісторыю Беларусі ад яе славы да ўпадку й абшырней спыніўся на яе вызвольным руху да абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, ды пасьля яе зьнішчэньня чырвонай Масквой. Змаганьне беларускага народу за сваю незалежнасьць праходзіла й праходзіць розныя этапы, прымала розныя формы й шляхі ў залежнасьці ад часу, палітычных абставінаў, месца, паглядаў розных фракцыяў грамадзтва. Рэфэрэнт адзначыў, што сёлета прыпадаюць 30-я ўгодкі Другога Беларускага Кангрэсу, Беларускай Цэнтральнай Рады, Беларускай Краёвай Абароны й Беларускіх Батальёнаў, ды што дзейнасьць іх адыйграла ў вызвольным беларускім руху вялікае значаньне.

На заканчэньне рэфэрэнт падсумаваў нашыя абавязкі й заданьні: Мы, канадзкія грамадзяне беларускага паходжаньня, павінны быць прыкладнымі грамадзянамі краіны, дзе жывём, мы павінны гуртавацца й працаваць у нацыянальных беларуска-канадзкіх арганізацыях, трымацца, паводля сваіх вераваньняў, беларускіх рэлігійных установаў, ды старанна перадаваць сваім нашчадкам сваю беларускую культуру зь веданьнем беларускае мовы й гісторыі.

З прысутных гасьцей прамаўляў, перадаючы прывітаньні ад Прэм'ера Канады Піера Эліёта Трудо ды свайго асабіста, Міністар Стану для спраў Шматкультурнасьці Гон. Др. Станлей Гайдаш. Міністар Гайдаш падкрэсьліў, што канадзкія грамадзяне беларускага паходжаньня робяць немалы ўклад у жыцьцё Канады, і поруч зь іншымі этнічнымі ейнымі групамі, маюць роўнае права й усе магчымасьці разывіваць сваю беларускую культуру.


*Hon. Stanley Haidasz, P.C., M.P.
Minister of State*

Прамаўляў гэтаксама й прадстаўнік Фэдэральнага Сакратар'яту Стану сп. Г. П. Ален.

Старшыня Сходу падзякаваў прамоўцам і перайшоў да пісьмовых прывітаньняў. Ён перадаў прывітаньні й прачытаў сходу Праклямацыю Мэра Таронта Дэвіда Кромбі, якая абвяшчала тыдзень ад 24-га да 30-га сакавіка „Беларускім Тыднем" у Тароньце. Энтузыястычныя воплескі былі вымоўнаю падзякаю для Мэра Д. Кромбі.

Пісьмовыя прывітаньні прыслалі: Лідар Апазыцыі Гон. Робэрт Станфілд, Лідар Новай Дэмакратычнай Партыі Дэвід Люіз, Прэм'ер Антарыя Гон. В. Дж. Дэвіс, Міністар для разьвіцьця рэсурсаў Антарыя Гон. Алан Гросман прыслаў асабліва прыветлівы ліст, які быў зачытаны, Правінцыянальны Сакратар для сацыяльнага разьвіцьця Гон. Робэрт Вэлш, Кіраўнік Аддзелу Нацыянальных Этнічных Архіваў, Публічных Архіваў Канады сп. Володымір Сэнчук.

Прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў прыслалі: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне — старшыня Галоўнае Управы Др. Р. Гарошка, Сэктар рады БНР у Нью Джэрзі — старшыня сп. В. Стома, Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі — старшыня Галоўнае Управы сп. Ян Міхалюк, Беларуская Грамада ў Швэцыі, Штокгольм — за Управу сп. Язэп Федарчук, Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі, Аўстралія — старшыня сп. М. Скабей, Беларуска-Амэрыканская Арганізацыя Моладзі — старшыня Галоўнае Управы сп-чня Рая Станкевіч, Беларускі Вызвольны Фронт — старшыня сп. Д. Касмовіч, Аддзел БАЗА ў Дэтройце — старшыня сп. Ю. Мазура, Беларуска-Амэрыканская „Юньён" — старшыня сп. К. Мерляк, Беларускі Кангрэсовы Камітэт Амэрыкі — старшыня сп. Я. Касяк, Сэктар Рады БНР у Аўстраліі — сп-ня А. Каранеўская, Беларускі Каардынацыйны Камітэт Чыкага, Іліной — старшыня сп. В. Пунтус, пісьменьнік Юрка Віцьбіч.

Песьняй „Я ад вас далёка бацькаўскія гоні", у выкананьні хору пад кіраўніцтвам Айца Паўла Вялікага, пачалася мастацкая частка праграмы, у іншым месцы якое гэты-ж хор выканаў і песьні: „Вярба" й „Ручнікі". У праграму ўваходзілі танцы „Полька Янка" й „Крыжачок" у выкананьні дзіцячай групы (дзяўчатак і хлопчыкаў), „Перапёлачка", „Вяночак" і „Лявоніха" танцавальнае групы „Лявоніха". Кіраўнічкай танцаў была сп-чня Эва Пашкевічанка, культурны рэфэрэнт Саюзу Беларускае Моладзі Канады. Да танцаў грала музыка сп. Б. Лішчонка. Мэля-дэклямацыю з гітарай верша Якуба Коласа „Нёман" выканаў сп. М. Камароўскі. Верш Уладзімера Дубоўкі „Чаму куртаты заяц" рэцытавала Эва Пашкевічанка. Мастацкі расказ народнае байкі Ўладзімера Дубоўкі і ўмелае пераданьне яго дэкляматаркай паставілі кропку над „і" ключавой думцы сходу: калі хочам нечага дабіцца, патрэбныя высілкі, адвага, настоўлівасьць, інакш застанемся „куртатымі" й у шматкультурнай Канадзе й на бацькаўшчыне. А кажучы словамі Натальлі Арсеньневай, „Высілкаў трэ нечалавечых і процьму цёплага каханьня".

У перапынках між мастацкімі нумарамі Міністру Стану Гон. Др-у Станлею Гайдашу ўручана была сп. А. Маркевічам кніга Кастуся Акулы „Тумороў із Естэрдэй", прадстаўлены старшыні ККБК, ды прывітаны суродзічы, што прыехалі на сход з далейшых мясцовасьцяў.

Традыцыйнай „Лявоніхай", а пасьля Беларускім Нацыянальным Гімнам закончыўся ўрачысты Сход . . ., а засталася вера:

„Зацьвіце наш край, як сонца
Посьля непагоды,
Ў роўнай волі, ў роўным стане
Між усіх народаў".

**Раіса Жук-Грышкевіч**

The City of Toronto
David Crombie, Mayor

## CITY OF TORONTO — PUBLIC NOTICE "BYELORUSSIAN WEEK" MARCH 24TH TO 30TH, 1974

The City of Toronto has been approached by the Byelorussian-Canadian Co-ordinating Committee to proclaim March 24th to 30th, 1974, as "Byelorussian Week".
Monday, March 25th, 1974, marks the Fifty-sixth Anniversary of the Byelorussian Democratic Republic. Byelorussian people have added much to Canada, bringing their culture and traditions to their new country.
The City of Toronto is pleased, therefore, to declare March 24th to 30th, 1974, as "Byelorussian Week" in Toronto.
Mayor's Office,
City Hall, Toronto,
March 18, 1974.

*David Crombie*
Mayor

# ПА СЬЛЯДОХ ПАХОДУ НАПАЛЕОНА

Як францyская сіла
Із-за Дзьвіны наступіла. . .
**Ян Баршчэўскі**

У Віцебску, пасярод утульнага сквэру на стромкім беразе Дзьвіны, узвышаецца чатырохкантавы абэліск, увенчаны зьверху арлом. Ён пабудаваны ў 1912 годзе, паводля праекту вядомага акадэміка І. Фаміна, зь фінляндзкага чырвонабурага граніту ў стылю ампір. Гэты стыль надаў тут велічнасьці й прывабнасьці суворую прастэчу, да якое сьветлыя прахоны паміж абэліскам і пастамэнтам дадалі надзвычайную лёгкасьць. Па кутох абэліску, падкрэсьліваючы ягонае прызначэньне, застыглі на варце чатыры баявыя мартыры, а паміж імі ляжаць нібы напагатове чыгунныя ядры. З напісу на мядзянай дошцы, зьмешчанай на пастамэнце помніку, відаць, што прысьвечаны ён:

„Несьмяротнай мужнасьці гэрояў Айчыннае вайны — удзельнікаў бітвы пад г. Віцебскам 13, 14, 15 ліпеня й 26 кастрычніка 1812 году".

І ўжо самы гэты напіс зьняпраўджвае псэўда-патрыятычнае сьцьверджаньне Беларускае савецкае энцыклапэдыі на бачыне 112-ае свайго 3-га тому, быццам манумэнт пастаўляны „ў памяць разгрому напалеонаўскіх войск пад Віцебскам". Пасьля гэтага няма ўжо й чаго патрабаваць ад плыткае кніжыцы В. Жучкевіча „Гарады і сёлы Беларускае ССР" (Менск, 1959 г.), дзе на бачыне 122-й даводзіцца, што той-жа помнік ушаноўвае „перамогу расейскіх войск над войскам Напалеона пад Віцебскам". А ў запраўднасьці ня было тут тады ў ліпені і ні зьнішчэньня, і ні перамогі.

Спачатку ў Віцебску плянавалася спалучэньне дзьвюх расейскіх арміяў — Барклая дэ-Толлі й Багратыёна, якія пад ціскам войск Напалеона рознымі маршрутамі адступалі да Масквы. Аднак калі першы дазнаўся ад другога, што з прычыны заняцьця маршалам Даву Магілева іхняе зьяднаньне зможа адбыцца толькі ў Смаленску, дык загадаў свайму ар'ергарду да апошняе кроплі крыві абараняць Віцебск, каб тым дазволіць галоўным сілам свае арміі адарвацца ад непрыяцеля.

Аб упартасьці гэтае заўзятае бітвы сьвэтчыць даволі цынічны загад расейскага генэрала Астэрмана-Талстога свайму асуджанаму на пагібель корпусу: „Стаяць і паміраць!". З другога боку сам Нэапалітанскі кароль маршал Мюрат не аднойчы ўперадзе свае коньніцы кідаўся ў атаку з крыкам: „Харобрыя за мной!" І за тры дні ды тры ночы бязупыннага бою расейскі корпус згубіў тут 827 чалавек забітымі й

# ЗАНЯДБАНАЯ ЦАЛІНА

Ці раз давялося нам чуць, што падчас апошняй вайны ўстанавілася беларуская вайсковая традыцыя. Гэткае выказваньне можна было пачуць ад нашых вэтэранаў, асабліва падчас ці аднаго сьвяткаваньня Дня Гэрояў у лістападзе.

Згода. А калі так, дык варта было-б гэную традыцыю замацаваць. Тымчасам нічога ня чуваць у кірунку такога замацаваньня. Ці вы, прыкладна, чулі, каб дзе які беларускі гісторык у вайсковых справах зьбіраў матар'ялы, працаваў над якім нарысам пра нашыя вайсковыя адзьдзелы, баі, пра беларускіх вайсковых гэрояў? Гэта пра апошнюю вайну.

Вернемся далей назад. Зірніце ў нашую сьціплую беларускую бібліятэку й знайдзіце там што-небудзь грунтоўна апрацаванае пра беларускія вайсковыя адзьдзелы зь Першай сусьветнай вайны, скажам, з часу Незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, пасьля пра фармацыі Булака-Балаховіча ці пра гэрояў Случчыны, што так ахвярна змагаліся за наш народ супраць маскоўска-бальшавіцкае навалы. Не гаворым пра тыя ці іншыя нарысы, каторыя бязумоўна, былі.

Як нам ня сорамна!

Шмат думак у сувязі з гэтай занядбанай цалінай нарадзілася ў мяне, калі летась пастукаўся ў мае дзьверы адзін выдатны й добразычлівы чужынец. Пастукаўся ён не літаральна, нажаль, а пры дапамозе даўжэйшага ліста. Сп. П'ер Верхі, Амэрыканец, мілітарны гісторык, што зьяўляецца сябрам Асацыяцыі Амэрыканскіх Мілітарных Гісторыкаў, жыве ў Галівудзе й цяпер даволі інтэнсыўна зьбірае матар'ялы пра мілітарныя й паўмілітарныя фармацыі паняволеных Масквой народаў, што актыўна змагаліся з Масквою.

Чырвоная Маскоўшчына, што была Гітлеравым хаўрусьнікам і памагала нацыстоўскай Нямеччыне рознымі спосабамі й матар'яламі, называе беларускіх вайскоўцаў з апошняй вайны слугамі Гітлера, зраднікамі беларускага народу й іншымі брыдкімі мянушкамі.

Прафэсар П'ер Верхі пісаў да мяне: „Зьбіраюся напісаць кнігу ці сэрыю кніг пра тое, чаму, як і ў якой ступені народы Ўсходняй Эўропы змагаліся з Чырвонай арміяй і савецкімі партызанамі". Адным з галоўных заданьняў будзе высьніць тое, што хоць усе гэтыя антысавецкія фармацыі й арганізацыі былі ў нейкай ступені зьвязаныя зь нямецкімі збройнымі сіламі, гэта не азначае, што сябры гэных фармацыяў былі прыхільнікамі Немцаў ці, што яшчэ горш, нацыстаў".

„Пастараюся паставіць вялікі націск на тое, — прадаўжае сп. П'ер Верхі, што хаця народы з Усх. Эўропы былі ў нейкай меры „хаўрусьнікамі" Немцаў, гэта здарылася з прычыны гістарычнага выпадку ў такой, можна сказаць, меры, як наш (г. зн. Амэрыкі, — К. А.) несьвяты хаўрус з Савецкім Саюзам быў таксама гістарычным выпадкам".

„Бяручы такой меркай, Усходніх Эўрапэйцаў, што змагаліся з Чырвонай Арміяй у Другой сусьветнай вайне, трэба лічыць перадусім ворагамі савецкага камунізму й расейскага імпэрыялізму, а не асуджваць як былых хаўрусьнікаў нацыстоўскай Нямеччыны".

Нельга не згадзіцца з праф. П. Верхі. Паколькі ў такой абшырназаплянавай працы кажнаму народу выпадзе ня вельмі шмат месца, сп. Верхі радзіў мне заняцца напісаньнем гісторыі Беларусі наагул і гісторыі беларускіх вайсковых адзьдзелаў з часоў Другое вайны ў васаблівасьці. Між іншым, сп. Верхі зьвяртаўся да шмат якіх ведамых беларускіх вайскоўцаў і іншых ды прасіў, каб памаглі яму інфармацыямі. Некаторыя зусім не адказалі на ягоныя лісты.

Мне давялося крыху памагчы праф. Верхі й таксама прыабяцаць заахвоціць некага да прапанаванай працы. Праўда, як можна каго заахвоціць? Самі падумайце. Ці-ж запраўды руплівага трэба падпіхаць? А вось сёлета мінае трыццаць гадоў ад стварэньня Беларускай Краёвай Абароны, дый больш часу ад паўстаньня Беларускай Самаахoвы й іншых нашых вайсковых адзьдзелаў.

Праф. Верхі прапануе свае паслугі ў рэдакцыі ангельскага тэксту, пашырэньня кнігі ў англамоўным сьвеце й запэўнівае, што некалькі тысяч экзэмпляраў такой працы можна было-б распрадаць між сяброў розных мілітарных асацыяцыяў па цэлым сьвеце.

Вось дзе ганаровая праца! Вось дзе ўдзячнае заданьне! Гэтта можна паказаць беларускі мілітарны высілак зь Першай і Другой войнаў, паказаць запраўдны твар Маскоўшчыны. І гэта пры помачы фактаў, лікаў, датаў, назоваў, прозьвішчаў. Гэта й быў-бы найлепшы помнік усім тым, што „пайшлі паміраць, каб жыла бацькаўшчына".

Прашу зацікаўленых выказацца на гэту тэму.

**К. Акула**

# БЕЛАРУСАВЕДА Ў ГАРАДЗКІМ КАЛЕДЖЫ Ў НЬЮ ЁРКУ

„Беларуская культурная спадчына ў Амэрыцы" — назоў сэрыі лекцыяў у праграме славянаведных выкладаў Ньюёркаўскага Гарадзкога Каледжу, чытаных ад 17 да 24 красавіка сёлета.

На лектараў курсу беларусаведы былі запрошаныя Д-р Я. Запруднік і Д-р В. Кіпель. Матарыял на лекцыях быў пададзены ў гэткім профілі: геаграфія, эканоміка, сучаснае палітычнае становішча Беларусі, гісторыя Беларусі ад X стагодзьдзя да сяньня й беларуская спадчыннасьць у Задзіночаных Штатах. Пасьля агульнага выкладу лектары затрымліваліся на мамэнтах, якія ў беларускай гісторыі, культуры й эканоміцы маюць прынцыповае значаньне.

У лекцыі зь гісторыі Беларусі Д-р Я. Запруднік падчыркнуў важнасьць Полацкага пэрыяду, пэрыяду Вялікага Княства Літоўскага, часоў аднаўленьня беларускае дзяржаўнасьці — БНР і БССР, зрабіў аналіз сучаснага стану вывучэньня гісторыі Беларусі.

Д-р В. Кіпель у лекцыі, прысьвечанай геаграфіі Беларусі, затрымаўся на эканоміцы БССР, ейнай ролі ў савецкай эканоміцы, навейшых геалягічных адкрыцьцяў на беларускай тэрыторыі ды сяньняшніх рэсурсах Савецкай Беларусі.

На лекцыі, прысьвечанай беларускай культурнай спадчыне ў Задзіночаных Штатах, асабліва дэтальна быў разгледжаны ўдзел беларускіх імігрантаў у жыцьці Амэрыкі каляніяльнае эпохі й пасьлейшых часоў амэрыканскае дзяржаўнасьці да 1880-х гадоў. Разглядаючы гэты пэрыяд, Д-р В. Кіпель падаў студэнтам дзесяткі прозьвішчаў выдатных вайскоўцаў, дзеячоў і палітыкаў Задзіночаных Штатаў, што паходзілі зь Беларусі, уцяклі ў Амэрыку перад расейскім наступам. Ён адцеміў, што вывучэньне гэтага пэрыяду — адна з галінаў дасьледваньняў беларускае іміграцыі ў ЗША, якая праводзіцца цяпер Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Амэрыцы.

Аналізам сяньняшняе дзейнасьці беларускае групы ў ЗША закончыліся лекцыі беларусаведы. Асобная лекцыя была прысьвечаная пытаньням і адказам на тэму беларусаведы наагул.

У зарганізаваньні й правядзеньні гэтага курсу падзяка належыцца перш-наперш Д-ру П. Гою, шчыраму прыяцелю Беларусаў, кіраўніку лекцыяў славянскае спадчыны ў ЗША ў Гарадзкім Каледжы, а таксама спадарычні Галіне Тумаш, студэнтцы гэтага каледжу, якая сваёй актыўнасьцяй выдатна спрычынілася да правядзеньня сёлетняе праграмы. Яна, як студэнтка гэтага курсу, у паразуменьні із сваім прафэсарам Д-рам П. Гоем, абмеркавала праграму беларускага тыдня й запрапанавала згаданых беларускіх дакладчыкаў.

Застаецца пажадаць, каб маладыя беларускія студэнты й студэнткі бралі курсы этнічных студыяў і за прыкладам Галіны Тумаш праяўлялі ініцыятыву ў справе пашырэньня ведаў пра Беларусь паміж амэрыканскімі студэнтамі. У справе будучых выкладаў, а таксама канспэктаў і іншых матарыялаў трэба зварачацца на адрыс:

Dr. Petro Goy
Slavic-American Studies
City College, 201 Goethals
New York, N. Y. 10031

# НАШ УДЗЕЛ У ФЭСТЫВАЛІ Ў ДЖЭРЗІ СІТЫ

21 красавіка сёлета ўжо трэйці раз адбываўся з удзелам Беларусаў Фэстываль Славянскай і Ўсходняэўрапейскай Музыкі й Танцу (пераважна фальклёрнага характару) ў гарадзкім Каледжы ў Джэрзі Сіты, Нью Джэрзі. Фэстывалі гэтыя арганізуе Клюб Славянскай і Ўсходняэўрапейскай Культуры. Стараньнем сяброўкі Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі Зосі Драздоўскай, студэнткі гэтага Каледжу, якая ў гэтым годзе зьяўляецца віцэ-старшынём згаданага Клюбу, Беларусы выступалі ў гэтым Фэстывалі з разнастайнай праграмай.

У першай частцы праграмы выступаў ведамы Беларускі Жаноцкі Хор „Каліна" із Саўт Рывэру, Нью Джэрзі, пад кіраўніцтвам кампазытара Ксавэра Барысаўца. Хор пазнаёміў прысутных з гэткімі беларускімі пераважна народнымі песьнямі, як „Зайграй, пастух", „Як пагнала стара баба", ды гэткімі папулярнымі, як „Люблю наш край", і „Васількі", музыкі К. Барысаўца, „Ручнікі", музыкі М. Пятрэнкі.

Шмат якія слухачы мелі першую нагоду пачуць беларускія песьні ў мастацкім выкананьні, прыслухацца да іхнай мэлядыйнасьці, чулай лірычнасьці, а таксама й да іхнай жыцьцярадаснасьці, тэмпэрамэнту й гумару. Песьні гэтыя зачароўвалі аўдыторыю. Нам дзяўчатам з танцавальнае групы „Мяцеліца" было вельмі прыемна чуць гэтыя песьні. Пачуцьцё нацыянальнага ўздыму й гонару хвалявала нас.

І калі нам давялося выступаць у другой частцы праграмы зь беларускімі народнымі танцамі, дык мы стараліся даць найлепшае з нашых магчымасьцяў. Плаўна й крыху сэнтымэнтальна плылі дзяўчаты ў вясновым карагодзе зь вянкамі веснавых красак на галовах — восем дзяўчатаў у даўгіх сукенках выконвалі танец „Вяночкі". Другім танцам была тэмпэрамантная полька „Бульба" ў народнай арыгінальнай беларускай вопратцы.

Беларусы атрымалі ў гэтым Фэстывалі заслужанае прызнаньне.

У праграме Фэстывалю выступалі дзьве польскія танцавальныя групы, адна лятувіская, а таксама польскі хор. Былі й салёвыя нумары.

Нам, Беларускаму танцавальнаму дзявоцкаму гуртку АБАМ зь Нью Ёрку было вельмі прыемна выступаць разам зь беларускім жаноцкім хорам „Каліна". Мы ўспрыймалі з хваляваньнем і радасьцяй іхнае выдатне харавое выступленьне. Але што нас найбольш кранула, дык гэта, што й сьпявачкі хору (як яны нам пазьней сказалі) хваляваліся за нас, жадалі нам як найлепшай удачы ды што нашае выступленьне ім спадабалася.

Гэтак добра быць у большай грамадзе на гэткіх міжнародных выступленьнях-фэстывалях дзеля пашырэньня імя Беларусі паміж чужынцамі. Таксама вельмі карысна й для нас удзельнікаў праграмы з розных аддаленых, а як-жа блізкіх асяродкаў.

**Рая Станкевіч**

**Выйшаў з друку № 3(33) часапісу „Беларуская Моладзь".** Бальшыня матар'ялу нумару паангельску. У нумары зьмясьцілі свае артыкулы Джордж (Юрка) Курыла, Джордж (Юрка) Азарка, Раіса Станкевіч, Яраслава Тумаш, Томас Пятраўскас. У нумары зьмешчаныя вершы беларускіх паэтаў з бацькаўшчыны Сяргея Панізьніка й Рыгора Барадуліна, а таксама „Ліст да маці" Барыса Сачанкі. Часапіс мае цікавую хроніку з жыцьця й дзейнасьці беларускае моладзі ў ЗША.

## ПАДЗЯКА

**Гэтаю дарогай складаем шчырую падзяку ўсім прыяцелям і сябром, якія зладзілі неспадзеўку-прыняцьцё для нас з нагоды 25-годзьдзя нашага сужэнства 30 сакавіка 1974.**

**Юля й Уладзімер Гуцько**

даныя й цытаваныя дарэвалюцыйныя вершы Янкі Купалы, дазволеныя царскай цэнзурай, цяпер забароненыя цэнзурай савецкай галоўна таму, што стаўляныя ў іх зьвінавачаньні царызму й расейскім чарнасоценцам маглі-б быць у сьведамасьці сяньняшняга беларускага чытача вельмі добра пераадрысаваныя савецкай сяньняшняй рэчаіснасьці.

Цяпер спынімся на трэйцяй катэгорыі Купалавых вершаў, што таксама не ўвайшлі ў выдаваны цяпер ягоны „Збор твораў у сямі тамох". Гэта вершы пра гістарычную мінуўшчыну Беларусі.

Гэтак ня трапіў у гэтае выданьне сваім часам вельмі папулярны праграмны верш Купалы „Над Нёманам", упяршыню надрукаваны ў тым-жа зборніку 1913 году „Шляхам жыцьця" й перадрукоўваны ў зборніках Купалавых твораў 20-х гадоў савецкага часу. Спасярод усіх Купалавых твораў, у якіх ён асэнсоўваў гістарычную мінуўшчыну Беларусі, верш „Над Нёманам" меў характар праграмнага твору для ўсяе беларускае літаратуры нашаніўскае пары й выказваў адзін з галоўных мамэнтаў ейнае ідэйнае сьціраванасьці. У вершы гэтым Купала аднаўляў у народнай памяці мінуўшчыну Беларусі часоў Полацкага Княства й часоў Вялікага Княства Літоўскага, як слаўныя й шчасьлівыя эпохі палітычнага, дзяржаўнага й культурнага росквіту беларускага народу ды супрацьстаўляў гэтым эпохам панурую дарэвалюцыйную цяперашчыну. Гэта былі эпохі, пра якія Купала ў вершы гэтым пісаў:

Буйным жыцьцём усё чыста кіпела,
Слава далёка за мора ішла.
Ворага кожны за плечы браў сьмела,
Цемра чужынцаў ня страшнай была.
Панам быў дома і слаўным за домам
Мой патаптаны сягоньня народ;
Змог ён ня толькі знаць штукі з заломам, —
Роднаму слову ўмеў кніжны даць ход.

З вольнай дружынаю князь на пасадзе
Вольнаму люду законы пісаў;
Слухалі князя, а князь што ня ўладзіў —
Слухаў, што веча яму звон казаў...

Так, так, мой дружа, іначай бывала, —
Не называўся забытым мой край;
„Поўнач" ня раз у ім схову шукала,
„Захад" знаў сілу яго неўнарай.

Гэтак асэнсаванай мінуўшчыне паэта ў далейшай частцы верша супрацьстаўляе паднявольную цяперашчыну. Словамі пэрсаніфікаванага ім Нёману паэта кажа:

Так грамдзяне свабоднага краю
Ёрмы узьлзелі, у рабства пайшлі,
Прадзедаў слава лазой зарастае,
Памяць мінуўшчыны дрэмле ў зямлі.

Рынкам жывога тавару няслава —
Край ўвесь зрабіла, загнала на ўбой,
Дзе ўжо лет сотні Масква і Варшава
Торг груганoвы вядуць між сабой.

Купалава ўслаўленьне мінуўшчыны Беларусі войстра супярэчнае партыйнай гістарыяграфіі ў дачыненьні да Беларусі. Гэта й сталася галоўнай прычынай цэнзурнае забароны гэтага аднаго з найпрыгажэйшых ягоных вершаў. Паводля партыйнае гістарыяграфіі, Беларусь быццам ніколі ня жыла сваім дзяржаўным жыцьцём, а была ў першым сваім гістарычным пэрыядзе да XIII стагодзьдзя падпарадкаванай г. зв. старажытнарускай дзяржаве — Кіеўскай Русі, а ў эпоху Вялікага Княства Літоўскага знаходзіілася ў няволі лятувіскіх фэадалаў, а пасьля Люблінскае вуніі ў 1569 году — польскіх паноў. І толькі ў выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі й дзякуючы нацыянальнай палітыцы Камуністычнай партыі пры бескарысьлівай дапамозе адзінакроўнага вялікага рускага народу Беларусь упяршыню ў гісторыі атрымала сваю дзяржаўную незалежнасьць, — цьвердзіць партыйная гістарыяграфія.

Аднак у навуковых працах аб'ектыўных беларускіх савецкіх гісторыкаў апошніх гадоў, гэткіх, як Леанід Аляксееў, Мікола Прашковіч, В. Чамярыцкі, Мікола Аляксютовіч і іншыя, наўсуперак гэнай тэзе савецкай партыйнай гістарыяграфіі, сьцьвярджалася існаваньне беларускай дзяржаўнасьці ў згаданых гістарычных эпохах. З названых беларускіх савецкіх гісторыкаў памерлы ў 1967 годзе Мікола Аляксютовіч навет цьвердзіў у ваднэй сваёй працы, што гэта ані не пярэчыць тэзе партыйнае гістарыяграфіі пра тое, што ў выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі Беларусь узапраўды ўпяршыню атрымала дзяржаўную незалежнасьць, але... сацыялістычную.

Дый сам Купалаў верш „Над Нёманам" у беларускіх літаратуразнаўчых працах апошніх год шырака згадваецца, аналізуецца й ацэньваецца ў дадатнім сьвятле. Пазытыўную ацэну верш гэты атрымаў у 2-ім томе „Гісторыі беларускай дакастрачніцкай літаратуры", у грунтоўнай працы Міхася Яроша „Янка Купала і беларуская паэзія", у працы Розы Гульман „Тэксталёгія твораў Янкі Купалы" й іншых. Усё гэта не ўратавала, аднак, Купалавага верша.

Другой прычынай няўлучэньня верша „Над Нёманам" у цяперашняе выданьне Купалавага „Збору твораў у сямі тамох" можна ўважаць тое, што ў ім войстра асуджае паэта панявольнікаў Беларусі ў гэных словах пра Маскву й Варшаву, што „торг груганoвы вядуць між сабой" за Беларусь. Аднак галоўнай прычынай забароны верша „Над Нёманам" сталася ўсё-ж гэнае ўслаўленьне мінуўшчыны Беларусі. Пра гэта даволі сьветчыць іншы дарэвалюцыйны Купалаў верш „Зь мінуўшых дзён". У ім няма й згадкі пра панявольнікаў Беларусі. Ад пачатку й да канца ў вершы гэтым выказвае паэта адно свой жаль з тае прычыны, што былая слава Беларусі прамінула бясьсьледна. Вось найбольш вымоўныя радкі гэтага верша:

Перашло, мінула,
Што калісь жыло,
Ў курганох заснула,
Зельлем зарасло.

Ня гудзе ў павазе
Голас вечавы,
Ня шукаюць князі
Славы і бітвы.

Войска Усяслава
Ня ідзе ў паход
На той бой крывавы
За свой край, народ.

Тымчасам і гэты, здавалася-б, палітычна зусім нявінны верш таксама не ўвайшоў у цяперашняе выданьне Купалавых твораў. Няма ў гэтым выданьні й іншага дарэвалюцыйнага верша Купалы „Брату Беларусу". У ім, як і ў вершы „Зь мінуўшых дзён", няма й слова пра панявольнікаў Беларусі, а толькі паэтава ўслаўленьне забытае народам ягонае мінуўшчыны. Вось, у якасьці прыкладу, першыя строфкі гэтага верша:

Ляж, прытуліся да зямлі,
Паслухай шчыра, што гавора
Табе, сям'і і ўсёй радні,
Калі запаліць неба зоры.

Пачуеш дзіўную аповесьць
Мінуўшай славы і жыцьця,
Аб чым згубіў ты ўжо даўно весьць,
Блукаючыся бяз пуцьця.

Пачуеш, як шмат лет таму
Тваё было тут панаваньне;
Паслушна голасу твайму,
Цябе ня кратала скараньне.

І запытаецца зямліца
Тваёй душы і тваіх дум:
Чаго ты блукаеш начніцай?
Чаму свой край аддаў на глум?

У зборніку „Шляхам жыцьця" была зьмешчаная прыгожая паэма „На Куцьцю", у якой у васабліва ўзвышаных і натхненных словах і вобразах услаўляе Купала мінуўшчыну Беларусі. Гэтая паэма павінна была-б зьявіцца адно ў пятым томе „Збору твораў у сямі тамох" Янкі Купалы, бо ў том гэты маюць увайсьці Купалавы паэмы дарэвалюцыйнага й савецкага часу. Том гэты яшчэ ня выйшаў. Але мяркуючы паводля Купалавых вершаў, што не ўвайшлі ў тры першыя тамы Купалавага „Збору твораў", можна быць пэўным, што не пабачыць сьвету й паэма „На Куцьцю".

Яшчэ няведама, якія кур'ёзы прынясуць нам чатыры далейшыя тамы „Збору твораў" Янкі Купалы, што яшчэ ня выйшлі з друку. Але й на аснове ўжо выдадзеных трох першых тамоў даволі відаць, што й гэтым разам Янка Купала прадстаўлены няпоўна, аднабакова й тым самым схвальшавана. Гэткае выданьне літаратурнае спадчыны найвялікшага беларускага нацыянальнага паэты Янкі Купалы, як і гэткія-ж выданьні твораў іншых беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў дарэвалюцыйнае й парэвалюцыйнае пары, старанна прасееныя праз сіта партыйнае цэнзуры, вельмі добра характарызуюць усю крывадушнасьць савецкай нацыянальнай палітыкі.

**Ст. Станкевіч**

# ШТО ЧУВАЦЬ?

На пленуме ЦК КПБ, што адбыўся напрыканцы красавіка сёлета, першы сакратар ЦК КПБ Пётра Машэраў, між іншымі рэчамі, сьцьвердзіў у сваім дакладзе (гл. „Зьвязда", 30. IV. 74):

**„Нажаль,** па многіх пазыцыях узровень і вынікованасьць практычнай дзейнасьці партыйных арганізацыяў, нашых кадраў пакуль што яшчэ не адпавядаюць высокім патрабаваньням партыі. Вось чаму на ўвесь рост паўстае задача ўсямернага ўдасканаленьня партыйнай работы наогул і ідэалягічнай асабліва".

**Камунізм у шмат якіх галінах будуецца йшчэ ўручную.** Машэраў сказаў: „Паранейшаму войстра стаіць пытаньне аб адставаньні тылоў прамысловасьці й будаўніцтва. Іменна тут, у дапаможнай вытворчасьці, захоўваецца найбольшая колькасьць цяжкіх ручных работаў" . . .

„У многіх будаўнічых арганізацыях вялікая колькасьць рабочых занята цяжкай ручной працай. Па Міністэрству сельскага будаўніцтва яна дасягае 60 працэнтаў усіх рабочых, па Міністэрству прамысловага будаўніцтва — 51 працэнт. Прычым узровень мэханізацыі работаў расьце вельмі марудна".

**„Абсталяваньне не выкарыстоўваецца.** Машэраў: „На 1 студзеня 1974 году ў рэспубліцы сабралася неўстаноўленага абсталяваньня на суму 110,7 мілёнаў рублёў, у тым ліку імпартнага — на 29,6 мілёну рублёў. Складзкія запасы неўстаноўленага абсталяваньня вырасьлі за год на 15 працэнтаў".

**Не стае мяса.** Машэраў: „Ня выканалі квартальнага пляну нарыхтовак мяса 36 раёнаў рэспублікі, у васноўным Магілеўскае й Віцебскае вобласьцяў. У выніку стварыліся вельмі сур'ёзныя цяжкасьці ў забясьпечаньні насельніцтва мясам".

**„Многія людзі праходзяць нялёгкае выпрабаваньне чаргой":** „Многія нашы людзі, і ў першую чаргу жанчыны, штодзённа праходзяць нялёгкае выпрабаваньне чаргой, задушаны, як гаварыў Ленін, атупляючай і зьнясільваючай работай ля дамашняй пліты, мыцьцём бялізны й іншымі бытавымі клопатамі, якія ‚зьядаюць' каля палавіны іх свабоднага часу".

**Ратавацца ад правалу падвышэньнем прапаганды.** „Забясьпечаньне высокай дынамічнасьці й вынікованасьці працы ня можа быць дасягнута бязь вялікай інтэнсыўнай і мэтанакіраванай палітычнай работы зь людзьмі . . . Адным словам, у пляне маральна-псыхалягічнай перабудовы мысьленьня й стылю работы кадраў, павышэньня іх адказнасьці партыйным камітэтам і арганізацыям, ідэалягічным установам рэспублікі трэба будзе зрабіць яшчэ шмат".

**Інтэлігенцыя сучаснае Беларусі:** „Вельмі значныя якасныя зрухі адбываюцца ў саставе й сацыяльным абліччы інтэлігенцыі, колькасьць якой у Беларусі перавышае цяпер 700 тысяч чалавек. Пры гэтым асабліва бурна растуць рады тэй яе часткі, якая непасрэдна зьвязана з паскарэньнем навукова-тэхнічнага прагрэсу".

**Асьвета работнікаў:** „Калі ў 1952 годзе ў нашай рэспубліцы колькасьць прамысловых рабочых, якія маюць вышэйную й сярэднюю (поўную й няпоўную) адукацыю, складала крыху больш чым 20 працэнтаў, то ў 1973 годзе яна ўзьнялася да 74.

„Але гэта не павінна засланяць ад нас той факт, што амаль чверць рабочых прамысловасьці мае пакуль што 5-7-клясную й навет пачаткавую адукацыю. Нельга мірыцца й з тым, што 131 тысяча рабочых прамысловасьці, 58 тысяч будаўнікоў і 37 тысяч рабочых саўгасаў ва ўзросьце да 29 гадоў ня маюць яшчэ закончанай сярэдняй адукацыі . . . Нажаль, большасьць зь іх не працягвае вучобы".

**Тэхнічны й адукацыйны прагрэс ня йдзе ўнагу з маральным.** Машэраў даў прыклад: „Толькі ў мінулым годзе за розныя парушэньні грамадзкага парадку звыш 70 работнікаў кінастудыі ‚Беларусьфільм' дастаўляліся ў органы міліцыі, у тым ліку 12 чалавек пабывала ў мэдпрацьвярэзьніках. . . Мяркуючы па пісьмах у ЦК КПБ, у рэдакцыі газэт і часапісаў, у нашых людзей выклікаюць справядлівае абурэньне факты паблажлівых адносін асобных кіраўнікоў да п'янства, хуліганства, парушэньняў працоўнай дысцыпліны".

**Беларускія навукоўцы „ў супярэчнасьці зь ленінскім прынцыпам".** Машэраў: „Неабходна рэзка павысіць якасьць навуковых дасьледваньняў і публікацыяў, іх ідэйна-тэарэтычны ўзровень . . . Асабліва войстрымі становяцца пытаньні партыйнай адказнасьці вучонага, выразнасьці яго сьветапоглядных, клясава-палітычных пазыцыяў. Аб гэтым даводзіцца напамінаць у сувязі з тым, што ў некаторых публікацыях, у тым ліку аб народных паэмах „Энэіда навыварат" і „Тарас на Парнасе", у работах аб Еўфрасіньні Полацкай, Смятрыцкім, Зізаніі праявіліся адгалоскі пазаклясавага аб'ектывізму, ідэалізацыі асобных багасловаў як выдатных асьветнікаў".

**У Акадэміі Навукаў БССР „нясталыя ў палітычных адносінах асобы":** „Сур'ёзнага папроку заслугоўвае бюро Аддзяленьня грамадзкіх навук АН БССР (акадэмік-сакратар т. Буслаў К. П.), якое слаба кіруе працэсам дасьледаваньняў, часта ідзе на повадзе нясталых у палітычных адносінах асобаў, не заўважае істотных промахаў і хібаў у асобных працах. Больш таго, Аддзяленьне санкцыянуе правядзеньне мерапрыёмстваў, не задумваючыся над іх магчымымі нэгатыўнымі вынікамі, як гэта мела месца з сымпозіюмам, які намячаўся па праблеме этнагэнэзу Беларусаў, і ў радзе іншых выпадкаў".

**Гісторыкі зьбітыя з тропу:** Машэраў: „Вазьмем, напрыклад, такое пытаньне. Яшчэ ў 1969 годзе Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК КПБ даручана было падрыхтаваць трохтомнае навуковае дасьледаваньне аб вытоках і характары ўсенароднага партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Мінула шмат часу ў бясплённых размовах і спрэчках, а патрэбнага дасьледаваньня няма й ня відаць, калі яно будзе".

**Чым жыве савецкая бюракратыя?** „Асобныя людзі з прымітыўнымі духовымі запатрабаваньнямі й дробнаўласьніцкай псыхалёгіяй бачаць у росьце даброт толькі спажывецкі аспэкт . . . Не сакрэт, што аўтамабіль, дача, модная мэбля й іншыя выключна матар'яльныя каштоўнасьці для таго-сяго становяцца ледзь не галоўным сэнсам жыцьця . . . Як правільна адзначае Іван Шамякін у сваім новым рамане ‚Атланты і карыятыды', праславутая садова-дачная ліхаманка захапіла, паразіла многіх работнікаў. Яны, ‚забыліся на сон і ежу, — піша Шамякін, — а некаторыя і на службу дзяржаўную. Размовы ў аддзелах ішлі на адну тэму: хто дзе дастаў шыфер, трубы, цымэнт, гной, хто якія гатункі яблыняў, агрэсту, парэчак пасадзіў на сваім участку. Усе раптам парабіліся архітэктарамі, будаўнікамі, аграномамі' ".

**Выйшаў з друку № 41 часапісу „Голас Царквы".** У нумары: Вялікоднае пасланьне Сабору Япіскапаў БАПЦ; прывітаньні Мітрапаліту БАПЦ Уладыку Андрэю ад Усяленскага Патрыярха Дымітрыёса I ды іншыя прывітаньні; артыкул зь гісторыі Праваслаўнае Царквы Наваградзкае Мітраполіі пад заг. „Усяленскі Патрыярх Ерамія II на візытацыі ў Літоўскай Дзяржаве" (аўтар: Мікалай Гайдук); артыкул -агляд „Праваслаўе ў Беларусі сяньня"; аўт. „Калі зьявіліся Славяне"; успамін пра а. др. Віктара Войтанку; хроніка.

**У газэце „Гэрытэдж Рэв'ю" (Агляд Спадчыны) № IV:I** зь беларускіх матар'ялаў трэба асабліва адзначыць вялікі артыкул „Шлях Беларусі да незалежнасьці", рэпартаж пра мастацкую выстаўку Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку ды артыкул рэдактара газэты др. Вітаўта Кіпеля пра пагляды этнічных групаў на справу Ўотэргейту.

**Пра Другі Сабор БАПЦ,** пра абраньне Мітрапаліта Андрэя ды ранейшых герархаў Беларускае Праваслаўнае Царквы надрукаваны артыкул праф. Томаса Э. Бэрда ў часапісе „Агляд Усходніх Цэркваў" (Eastern Churches Review, vol. V, № 2).



## "БЕЛАЗЫ": ХТО БУДУЕ, А ХТО ГАНДЛЮЕ?

У рэдакцыю газэты „Беларус" хтосьці прыслаў ананімна два лісткі вырваныя, відаць, з савецкага часапісу „Спутнік" (якога, дарэчы, у Савецкім Саюзе за ніякую цану дастаць нельга). На іх здымак магутнага самазвалу „БелАЗ (Беларускі аўтамабільны завод) з пачаткам артыкулу, што мае загаловак „Волаты з маркай ‚БЕЛАЗ' ". Дасыльшчык гэтых ліскоў хацеў, відаць, гэтым сказаць: „Во, бачыце, якія машыны на Беларусі робяць, а вы што там у сваёй газэце пішаце?!"

Дык вось што напісала заходнянямецкая газэта „Дойчэ Цайтунг — Крыст унд Вэльт" з 29 сакавіка сёлета з нагоды савецкае гандлёвае й прамысловае выстаўкі ў гор. Дысэльдорфе на якой быў паказаны таксама й той валатоўскі „Белаз":

„Магчымыя перамовы аб продажу ‚Белазаў' будуць адбывацца бяз удзелу прадстаўнікоў Беларускага аўтамабільнага заводу. У Жодзіне (дзе знаходзіцца Бел. аўтам. завод) добра разумеюць, што тэрміны пастачаньня, абслугоўваньня, магчымасьці рамонту й запасныя часткі могуць адыгрываць пры продажу замяжу вырашальнае значаньне. Аднак перамовы ў Дысэльдорфе што да куплі-продажу беларускіх грузавікоў будуць праводзіцца бяз удзелу прадстаўнікоў заводу, якія адзіныя ў стане кампэтэнтна гаварыць пра вытворчасьць машынаў і спосабы выкананьня пагадненьня аб продажу. У Жодзіне зацікаўленых асобаў адсылаюць у Маскву — сядзібу адпаведнай вонкавагандлёвай арганізацыі, фактычнага партнэра замежнага пакупніка: **Беларускі аўтамабільны завод будуе, а продажам займаецца Масква".**

## НУМІЗМАТЫЧНЫ ЗДАБЫТАК

Сёлета ў жнівені Беларускі Музэй у Лёндане атрымае з Сыднэю г. зв. „літоўскую грыўню". Гэта зьлітак (прут) серабра высокай пробы, які служыў на нашых землях як разьменная манэта (XIII-XV стагодзьдзі). З гэтага ўзятае й слова „рубель": рубалі зьлітак-грыўню на палавіну ці на чатыры часткі.

У 1930 годзе, каля Вільні, селянін выараў цэлую скрынку зьліткаў. Там былі літоўскія, кіеўскія й наўгародзкія грыўні. Аб вартасьці гэнай знаходкі можна судзіць з цаны, якую селянін патаёмна атрымаў ад юбілера: 5.000 злотаў. Польскія ўлады не дагледзілі гэтага скарбу, бо большая ягоная частка была пераплаўленая. Некалькі грыўняў трапіла ў Горадзенскі музэй, частку Немцы сканфіскавалі падчас апошняй вайны, а некалькі трапіла ў Аўстралію.

## КРАМЛЁЎСКІМ ПАЛАЧОМ

**(Працяг, пач. у № 203 „Беларуса")**

**IV.**

Пры дапамозе янычараў
Вы занялі чужы прастол.
Ў крыві ўтапілі бунт Унгараў,
Загналі Балтаў ў свой „кацёл".

Калі дакончылі ўсіх чыста,
Хто чалавек быў, патрыёт, —
Тады ідэйных камуністаў
Павалаклі на эшафот.

Прынесьлі голад Украінцам,
Мільёны іх паслалі ў гроб.
Ды вам, народным крывапіўцам,
Крыві людзкой ўсьцяж недахоп.

Ня пералічыш вашых вінаў,
Злачынстваў дзікіх, палачы:
Напалі на спакойных Фінаў
Так, як бандыты уначы.

Ў Катыні вытаўклі Палякаў
Энкавэсцкія зьвяры,
На гаках вешалі Казакаў,
Як за Нэронавай пары.

А беларускімі касьцямі
Увесь Сібір шырокі ўслан,
Удоў і сіратаў сьлязамі
Заліты Сталінскі канал[1]).

Пазналі добра вас Румыны,
Пазналі добра й Чэхі вас,
І ваш тэрор і вашы кпіны,
„Свабоду" вашу бяз прыкрас.

Махалі Чэхі кулакамі,
Калі наезцы зноў прыйшлі:
Іх успакойвалі штыкамі
Майстры мардэрстваў — Маскалі.

Да мук даводзяць людажэрцы . . .
Жывым паліцца! Які жах!!!
Жыць будзе вечна ў чэскіх сэрцах
Сьвяты мартыр іх Ян Палах.

Для вас, Крамлёўскія мардэрцы,
Нянавісьць вечная ў грудзях.

**С. П. і А. Д.**

[1]) Сталінскі канал—Беламорска-Балтыйскі канал імя Сталіна, пабудаваны зьняволенымі нерасейскімі народамі, галоўна Беларусамі.



**БЕЛАРУСКАЯ БІБЛІЯТЭКА Й МУЗЭЙ
ІМЯ ФРАНЬЦІШКА СКАРЫНЫ Ў ЛЁНДАНЕ**

**(FRANCIS SKARYNA BYELORUSSIAN LIBRARY AND MUSEUM**

**37 Holden Road, London, N. 12 8HS).**

Управа Беларускай Бібліятэкі й Музэю зьвяртаецца з просьбай да ўсіх прысылаць кніжкі, рукапісы, часапісы, здымкі зь беларускага жыцьця й наагул усё тое, што датычыцца да беларускай мінуўшчыны, да беларускай культуры, а што ў прыватных руках магло б лёгка загінуць.

Кажнаму ведама, што на павялічэньне кніжнага фонду, на неабходныя інвэстыцыі й на вядзеньне працы ў Бібліятэцы патрэбныя грошы. Як дагэтуль, Бібліятэка ня мае сталых даходаў і таму просьба да ўсіх, хто цэніць беларускую культурную ўстанову, прысылаць ахвяры, а так-жа памятаць пра яе ў тастамэнтавых запісах.

Управа Б.Б. і М. выказвае шчырую ўдзячнасьць усім тым, хто ўжо пераслаў у Бібліятэку або Музэй матарыялы зь беларусікі й хто дапамог матарыяльна.

**Управа Беларускай Бібліятэкі й Музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане**

## БЕЛАРУСКІ ВЯЛІКДЗЕНЬ У МАНЧЭСТАРЫ Й БРАДФАРДЗЕ

Беларусы Брадфарду (Ангельшчына) арганізаваным транспартам езьдзілі ў суседні Манчэстар на Ўсеначную, якая адбылася ў БАП-Царкве Жыровіцкае Божае Маці із сыботы на нядзелю 13-14 красавіка. Вялікодную Сьв. Літургію служылі прат. а. Янка Абабурка й а. Янка Пякарскі. Царква была напоўненая вернікамі, якія, па заканчэньні Багаслужбы, перайшлі ў царкоўную залю, дзе прат. а. Я. Абабурка пасьвяціў пасху ды, прапяяўшы малітву, прысутныя супольна адгаўляліся паводля традыцыйнага беларускага звычаю.

Беларусы Брадфарду, хоць і міла гасьцілі ў Манчэстары, аднак, падзякаваўшы за гасьціннасьць, сьпяшаліся дамоў, дзе жанчыны нарыхтавалі сьвяточныя сталы й чакалі на разгаўленьне. Да Брадфарду прыехалі й госьці з Галіфаксу, а зь імі й госьці зь Нямеччыны. Вялікоднае сьнеданьне пачалося а 10-й гадзіне раніцы ў залі „Лявоніха" Беларускага Грамадзкага Клюбу „Сакавік".

Насходзілася вялікая колькасьць Беларусаў, прыяцеляў і гасьцей. За прыгожа аздобленымі сталамі ды застаўленымі рознымі закускамі й напіткамі, правялі вялікоднае сьвята ў вельмі мілай таварыскай атмасфэры і паводля хрысьціянскага абычаю.

**Янка Крушына**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (красавік) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**I. ЗША:**

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. І. П. Г. | $ 100.00 |
| 2. Матушка Марыя Васілеўская | 30.00 |
| 3. В. і М. М. | 20.00 |
| 4. А. Барсук | 20.00 |
| 5. А. А. | 10.00 |
| 6. С. Татарыновіч | 10.00 |
| 7. Я .Канарчук | 10.00 |
| 8. А. Плешка | 3.00 |

**Разам: $ 203.00**

**Б. Заахвяравана на сьвяткаваньні 110-х угодкаў ад сьмерці Кастуся Каліноўскага ў Чыкага 28 красавіка сёлета:**

| | |
|---|---|
| 1. А. Беленіс | $ 100.00 |
| 2. Д-р А. Занковіч | 100.00 |
| 3. Д-р Б. Грабінскі | 40.00 |
| 4. В. Пануцэвіч | 20.00 |
| 5. М. Латушкін | 20.00 |
| 6. Г. Сенькевіч | 20.00 |
| 7. Д-р В. Рамук | 20.00 |
| 8. М. Мароз | 10.00 |
| 9. Н. Градэ-Куліковіч | 10.00 |
| 10. М. М. | 10.00 |
| 11. С. Антонік | 10.00 |
| 12. В. Багдан | 10.00 |
| 13. Н. Жызьнеўскі | 10.00 |
| 14. В. Пунтус | 10.00 |
| 15. Э. Дудзінскі | 5.00 |
| 16. Сп-ня Вазноніс | 5.00 |
| 17. К. Пуп | 5.00 |
| 18. Э. Жызьнеўская | 5.00 |
| 19. Я. Панкевіч | 4.00 |
| 20. М. Каленік | 3.00 |

**Разам: $ 417.00**

**II. АЎСТРАЛІЯ:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р М. Мілянцэвіч | $ 42.27 |
| 2. К. Ранцэвіч | 13.61 |

**Разам: $ 55.88**

**III. НЯМЕЧЧЫНА:**

| | |
|---|---|
| 1. С. Гох | $ 7.74 |

**IV. За клішэ, абвесткі, сямейную хроніку:**

| | |
|---|---|
| 1. Рада Царквы Сьв. Кірылы Тураўскага на Рычмонд Гіл за клішэ й сям. хроніку | 25.00 |
| 2. Д-р В. Кіпель за клішы | 25.00 |
| 3. Бел.-Амэр. Нац. Рада ў Чыкага за клішэ й кляпсыдру | 21.00 |
| 4. Бел. Каард. Камітэт у Чыкага за клішы | 20.00 |
| 5. М. Латушкін за абвестку | 15.00 |

**Разам: $ 106.00**

**Усяго разам: $ 789.62**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**